# ЗЬМЕСТ:




Нумар здан у набор 28-V—32 г.

Падпісан да друку 15-VI—32 г.

Адказны рэдактар Міхась Чарот.

Адказны сакратар Я. Шарахоўскі.

Нумар набран і зьвёрстан брыгадай імя 13-га Кастрычніка, па макету А. Тычыны.

Карэктар Ал. Мацкевіч.

Клішэ выканаvы пад кіраўніцтвам Кантаровіча.



АДДЗЕЛ ПАДПІСНЫХ І ПЭРЫОДЫЧНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ

## ПАДПІШЫСЯ на 1932 г.

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс тыпу лепшых ілюстраваных часопісаў СССР

# Чырвоная Беларусь

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІХАСЯ ЧАРОТА

## У „Чырвонай Беларусі“ на працягу 1932 г. будуць зьмешчаны:

**Апавяданьні:** С. Баранавых, Іл. Барашкі, З. Бядулі, А. Вольнага, Т. Гушчы, Ц. Гартнага, П. Галавача, Даўгапольскага, М. Зарэцкага, В. Каваля, Э. Кагана, Р. Кальтофэн, М. Кальтофэн, М. Лынькова, Я. Ліманоўскага, Р. Мурашкі, Маўра, М. Нікановіча, Нёманскага, М. Чарота, К. Чорнага, Швэйдэля і інш.

**Поэмы і вершы:** А. Александровіча, З. Астапенкі, С. Астрэйкі, М. Багуна, Бацюшкава, Я. Бобрыка, П. Броўкі, А. Звонака, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, С. Ліхадзіеўскага, М. Лужаніна, Юр. Лявоннага, В. Маракова, С. Нортмана, Ю. Таўбіна, І. Харыка, Ул. Хадыкі, М. Хведаровіча, М. Чарота, С. Шушкэвіча і інш.

**Нарысы і фэльетоны:** М. Аляхновіча, Бэндэ, С. Бэрнара, С. Гюгера, А. Вольнага, В. Вольскага, Ф. Выхадцава, Ц. Зарэчнага, Б. Мікуліча, Мяжэвіча, Ал. Некрашэвіча, М. Пасьлядовіча, Я. Скрыгана, В. Сташэўскага, Шкадарэвіча, Хв. Шынклера, Ус. Шыдлоўскага і інш.

**Малюнкі і фото:** Ахрэмчыка, Азгура, Бразэра. Волкава, Гаўрыленкі, Заборава, Давідовіча, Кіпніса, Мазэлева, Малкіна, Пашкевіча, Ран, Семянякі, Салавейчыка, А. Тычыны, М. Філіповіча і цэлага шэрагу раённых корэспондэнтаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ ДАЕ Ў ГОД:

звыш 1000 фотоздымкаў, якія ілюструюць соцыялістычнае будаўніцтва СССР і БССР, а таксама заможнае жыцьцё, звыш 300 малюнкаў лепшых мастакоў, звыш 200 апавяданьняў, вершаў і нарысаў.

## „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“

на сваіх старонках адлюстроўвае соцыялістычнае будаўніцтва БССР і СССР, практыку герояў пяцігодкі, аддае вялікую ўвагу соцыялістычнаму спаборніцтву і ўдарніцтву, соцыялістычнай перабудове вёскі, шырока асьвятляе разгортваньне культурнай рэволюцыі, жыцьцё мастацтва, тэатру, кіно і інш.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| На 1 год | | На 6 мес. | | На 3 мес. | |
|---|---|---|---|---|---|
| р. | к. | р. | к. | р. | к. |
| 3 | — | 1 | 50 | — | 75 |

Асобны нумар каштуе **15 К.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** ўсімі агэнцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі Д… аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.

Тэлефон рэдакцыі 17-09.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ



мэханізацыя сьвінагадоўчых гаспадарак.

падвесная чыгунка для падачы кармоў у сьвінарнікі саўгасу „Малая Сьляпянка“.

10
МАЙ

# ДВА КОНВЭРТЫ

ЯКУБ КАМЯНЕЦКІ
З-д ІМЯ ВАРАШЫЛАВА

Паравоз набіраў хуткасьць, і колы цягніка то звонка татакалі, то каціліся плаўна па рэйках, астуджаных марозам. Андрэй ішоў вячэраць у вагон-рэсторан. Яго калыхала між сьценкамі купэ і вагонаў і ногі, амаль не чуючы вагі цела, лёгка ішлі ўперад. І здавалася Андрэю: то ён робіць крокі нявымернай велічыні, то яго адносіць назад і ён ніколі ня зайдзе туды, куды ідзе. Некаторыя купэ былі зачынены, з другіх веяла подыхам густога тутуновага дыму. На мастках паміж вагонамі Андрэя абдавала сьвежасьцю ціхай марознай ночы, і ён, удыхаючы сваімі шырачэзнымі грудзямі сьвежае паветра, адзначаў у памяці, што прайшоў яшчэ вагон. Так прайшоў ён масткоў пяць, і нарэшце апынуўся ў сьветлым вагоне, які здаўся Андрэю, шырэй звычайных. Па баках гэтага вагону стаялі столікі, за якімі сядзелі і вячэралі людзі. За адзін з столікаў сеў і Андрэй.

Насупроць яго сядзеў чалавек, які гаварыў на незнаёмай Андрэю мове, з сваім таварышом. Андрэй зірнуў дапытлівым позіркам на гэтага чалавека і пачаў прыслухоўвацца да яго басістага голасу—нешта знаёмае пачуў у ім.

— „Дзе я яго бачыў, дзе я чуў гэты голас?“

— „Тыя-ж круглыя рагавыя акуляры, той-жа самы бастонскі гарнітур, тая-ж кепі“—успамінаў Андрэй.

— „І той-жа востры падбародак з рыжым валасяным клінком на кончыку, і той-жа чорны гальштук з чырвонымі крупінкамі, схаваны канцом пад прыгожы разнакаляровы джэмпэр.—Дзе я яго бачыў?“—пытаў сам сябе Андрэй,—і яго пачынала хваляваць, бы сядзеўшы супроць яго, самы злы вораг, ці родны брат, якога ён ня бачыў дзесятак год. Андрэй думае і прад ім уплываюць мястэчкі, гарады, дзе ён мог бачыць гэтага чалавека ў круглых рагавых акулярах.

Да століку падышоў афіцыянт. Чалавек у акулярах павярнуўся тварам да Андрэя, і нешта сказаў афіцыянту. Андрэй не чакаючы запытаньня, прагаварыў ледзь чутна: „І мне“.

Таварыш чалавека ў акулярах пайшоў.

Чалавек у акулярах закурыў сыгару і стаў пагладаць на Андрэя, які ня зводзіў з яго вачэй. Няпрыемна стала Андрэю і ён задыміў, напхнутым у люльку тутуном, а чалавек у акулярах таксама абвалокся дымам. І зноў глядзелі яны адзін на аднаго,—і кожны з іх нешта думаў, нешта ўспамінаў. Андрэй папыхваў—пакуль пацягнуўшы адчуў нейкую гаркавасьць. Тады палажыўшы люльку на ўскрайку століка, ён выцягнуў з унутранай кішэні свайго пінжака скураны бумажнік. Андрэй выняў перагнутую паперку, на якой былі напісаны адрасы яго таварышоў. У сярэдзіне гэтай паперкі ляжаў яшчэ аскубачак, на якім ня Андрэявай рукой быў напісаны нейкі замежны адрас, а некалькі ніжэй Андрэяў росчырк: „Да сьнежня не дасылаць“. Гэты аскубак Андрэй пакінуў на століку, а бумажнік паклаў назад. Чалавек пачаў здалёк пракалваць вачыма, праз свае круглыя рагавыя акуляры, напісанае на гэтай паперцы. І калі чалавек у акулярах амаль не прачытаў усё напісанае на ёй, Андрэй раптоўна спытаў:

— Мы з вамі здаецца знаёмы... і зрабіўшы ўдох працягваў,—але ніяк ня ўспомню, дзе мы з вамі бачыліся.

Чалавек у акулярах уважліва выслухаў, на твары яго зьявілася лёгкая дабротна-мяккая ўсьмешка. Вусны пачалі ледзь прыкметна рухацца.

— І я вас прыпамінаю... Бачыў я дзесьці вас—голас яго пакрапчэў і ў ім чуліся выразныя басовыя гукі.

— ... Але цяжка запамятаць усіх, што бачыў я за час прабываньня на бацькаўшчыне працоўных... Многа я бачыў падобных на вас, і здаецца, што ўсе вы як адзін. Дый гэта ня толькі здаецца—яно так і ёсьць—ва ўсіх у вас адно імкненьне. Праўда маюцца і такія... але аб іх ня варта гаварыць.

Андрэй успамінаў, калі ён першы раз бачыў гэтага чалавека. Было гэта так:

Незнаёмыя людзі ішлі па цэху. Побач з імі—сакратар партыйнага колектыву і старшыня заўкому. Незнаёмыя ўглядаліся ў кожнага рабочага, кожны з якіх дыхаў невычарпальнай сілай. Яны бачылі: як плаўна шаргаюць напілкі, як размерана—чотка і моцна б'юць малаткі, як лёгка працаваць рабочаму на новых машынах... Каля кожнай новай машыны, каля кожнага новага варштату, яны застанаўляліся і аглядалі яго ад шпіндэля да асновы. У мэхана-зборачным яны вельмі зацікавіліся машынамі, якія выпрацоўвае завод. Старшыня заўкому расказваў для чаго іх робяць—перакладчык перакладаў. Дэлегаты ўважліва слухалі.

— І ў нас такія робяць, але не для крахмальных заводаў, а для выпрацоўкі бяздымнага пораху—заўважыў тады гэты чалавек у круглых рагавых акулярах.

Якраз рабілі пробны пуск машыны. Барабан круціўся з хуткасьцю 1.200 зваротаў у хвіліну. Шарыкавыя падшыпнікі рабілі рух плаўным, так што, калі наглядаў за гэтым рухам здалёк, то здавалася, што барабан стаіць. Цікавае відовішча! Андрэй быў тады брыгадзірам брыгады па зборцы гэтых машын і заўвага чалавека ў акулярах сказала Андрэю аб многім: капіталізм, уміраючы капіталізм рыхтуецца да апошняй рашучай бойкі.

Пасьля работы адбыўся мітынг. Андрэй таксама застаўся. Побач з ім стаяў той-жа чалавек у круглых рагавых акулярах. Слова атрымаў старшыня чэхаславацкай рабочай дэлегацыі.

Юнгштурмаўскі гарнітур. Чыста вычышчаныя нагавіцы. Загарэлы. Вочы блішчаць ад радасьці. Скура на твары нацягнута, з-пад яе выпіраюць шырокія косьці. Захапленьне не давала яму распачаць. Гаварыў на чэшскай мове. І як ня розьніцца гэта мова ад рускай, беларускай, польскай—амаль усе было зразумела... Ён то высока ўздымаў рукі, памахваючы імі ў паветры, то апускаў іх і напружваў сілу голаса, то гаварыў зусім ціха, так што стаячым з-заду было амаль ня чутно, і яны прымушаны былі дагадвацца аб зьмесьце толькі па міміцы. Гром воплескаў пакрыў яго апошнія словы. Плёскаў і Андрэй, а незнаёмы ў акулярах стаяў заклаўшы рукі ў кішэні. Андрэй абурыўся тады на яго і хацеў было нешта сказаць, але стрымаўся—успомніў заўвагу наконт...

— ... У той час як у Чэха-Славакіі, зараз налічвае ўсяго 14 мільёнаў насельніцтва, каля мільёну беспрацоўных, у вас не хапае рабочых...—перакладаў перакладчык прамову старшыні...

Гэта вялізарнейшае дасягненьне, аб якім нават ня можа маўчаць буржуазія, якая карыстаецца гэтым для распусканьня розных баек аб „прымусовай працы“ у СССР, для прыкрыцьця гвалтоўнай эксплёатацыі ў сябе...—перакладаў перакладчык далей...

Гаварылі яшчэ шмат:—і варашылаўцы, і дэлегаты. Сказаў слова і Андрэй.

— Шалёна рыхтуецца сусьветная буржуазія да новай бойкі. Буржуазія выкарыстоўвае цэнтрафугі для аднэй мэты, мы для



Магутная электрорудачарпалка, устаноўленая а зав. імя Рыкава.

другой... буржуазія гэтымі машынамі падрыхтоўвае новую сусьветную бойку, мы іх выкарыстоўваем для паскарэньня соцыялістычнага будаўніцтва...

І цяпер калі прад ім сядзеў гэты жывы сьведка, Андрэй міжвольна ўспомніў гэтую прамову на мітынгу, якую ён скончыў:

— Рыхтуюцца—няхай рыхтуюцца... Рабочыя ўжо ведаюць хто іх вораг...

Чалавек у акулярах, павёртваў у руках аскубак з адрасам, які зьвярнуўся ўжо ў трубачку і паглядаў на Андрэя.

— Ваша прозьвішча Фром? — зьвярнуўся Андрэй да чалавека ў акулярах.

Чалавек у акулярах хуткім позіркам абдаў Андрэя і стаў пільна ўглядацца ў яго. Андрэй ледзь стрымлівае ўсьмешку, але ня стрымаўся—абодвы ціха засьмяяліся.

— Пазналі!—гаворыць праз сьмех Андрэй і паўтараючы яшчэ раз:—Пазналі!—напамінае: Менск, завод імя Варашылава.

Чалавек у акулярах устае, працягвае руку і Андрэй двума паціскае яе. Потым сядаюць і пачынаюць вячэраць. Чалавек у акулярах, ужо разразаючы кусок мяса на драбнюсенькія кавалачкі, запытаў:

— Гэта вы выступалі тады на мітынгу... ага ўспамінаю... Вас звалі тады таварыш Андрэй М...

— Так!—адказаў Андрэй, запіхваючы ў рот кавалачак мяса.

Зноў замітусіліся ў Андрэя думкі, аб першым знаёмстве з Фромам, якое адбылося на інтэрнацыянальным вечары ў летнім садзе пры заводзе...

Цёплым ліпеньскім вечарам Андрэй з таварышамі сядзеў на лаўцы ў заводзкім садзе. Ужо зьявіліся камары і іншая машкара, якая не давала спакойна пасядзець. Фром з таварышамі ішоў па сьцежцы. Заўважыўшы Андрэя, яны падыйшлі да лаўкі. Пазддаровался. Прыселі. Спачатку сядзелі моўчкі, потым загаварылі...

— Колькі год працуе гэты завод?—запытаў адзін чэшскі таварыш

Адказваў на гэта запытаньне Андрэй. Завод ён ведаў з першых дзён яго існаваньня.

— У 1920 г., наш завод, які вы ўчора бачылі, быў маленькай майстэрняй, якая вырабляла чайнікі і лыжкі. Продукцыя гэтай „майстэрні“ ацэньвалася ў некалькі сот тысяч рублёў. Было гэта пасьля белапольскай окупацыі. Белапалякі ад былой вайсковай майстэрні пакінулі груд попелу.

Адзін з таварышоў-дэлегатаў ведаў рускую мову і пераклаў астатнім.

— У 1922 г. завод пачынае адбудоўвацца. Продукцыя яго ўжо ня чайнікі і лыжкі, а вагі. Зразумела, што гэты завод мала чым адрозьніваўся ад былой майстэрні. Але пераход на вагі ў той час, было таксама перамогай.

— У 1924 г. майстэрня—ужо сапраўды завод. Ужо маюцца варштаты. З пары завод пераходзіць на электраэнэргію. Далей увесь час ідзе адбудова, і ў 1927 г. на заводзе адчыняецца ліцейны цэх. Гэты момант зьяўляецца пераломным для заводу. Дзякуючы правільнаму кіраўніцтву з боку ЦК нашай партыі завод пераходзіць на машынабудаўніцтва. Прыблізна, з гэтага часу распачаў працу і кацельны цэх,—які вырабляе нескладаныя клёпаныя конструкцыі.

Тут Андрэя зноў перабіў таварыш, які перакладаў. Чэшскія таварышы задаволены—яны бачуць у кожным Андрэявым слове пульс разьвіцьця ўсяе Савецкае краіны; яны-ж добра ведаюць, што ўяўляла з сябе Беларусь да Кастрычніцкай рэволюцыі. Фром і яго таварышы запісвалі адказы Андрэя ў свае блёкноты.

Андрэй гаварыў далей:

— У 1929 г., першым годзе пяцігодкі, завод пачынае вырабляць такое абсталяваньне, якое раней завозілася з-за граніцы... Пачынаюць вырабляць цэнтрафугі і іншае абсталяваньне для крухмальных заводаў. За пасьпяховае выкананьне заданьня першага году і асваеньне новых вытворчасьцяй колектыў заводу ўзнагароджваецца ордэнам Чырвонага сьцягу. Надалей увесь час ідзе рэконструкцыя і пашырэньне заводу. Будуюцца новыя цэхі, устанаўліваюцца новыя варштаты і г. д. Другі год пяцігодкі і ўдарную квадру завод канчае таксама перавыкананьнем прамфінпляну. Завод асвойвае вытворчасьць такарных і сьвідравальных варштатаў. І нарэшце цяпер, у трэцім рашаючым на заводзе працуюць ня 70 чал., якія мы мелі ў 1921 г., а 1.400. Завод выпускае складанейшыя машыны, якія раней увозіліся з-за мяжы.

Калі таварыш скончыў перакладаць, дык пачуліся гучныя галасы яго таварышоў:

— Гэта сапраўды рост...

— Гэта сапраўды дасягненьні...

— Гэта сапраўды перамогі...

Пасьля гэтага зноў запыталіся дэлегаты:

— Як у вас будуецца партколектыў на заводзе?

— Ці многа даюць рабочыя рацыяналізатарскіх прапаноў?

— Як у вас распаўсюджана пазыка? І на кожнае запытаньне даваўся зразумелы адказ. Іх пытаньні казалі аб тым, што ўсё тое, што праводзіцца ў Савецкім саюзе, захапляе іх, гаворыць ім, паказвае ім—што да аслабаненьня, да перамогі ёсьць толькі адзін шлях, шлях краіны саветаў...

Цямнела. Распачынаўся інтэрнацыянальны вечар, прысьвечаны 1-му жніўня. На вечары выступаў і Фром. Ён казаў, што ў Савецкім саюзе ён толькі другі дзень, і за гэты кароткі час, краіна Саветаў зрабіла на яго вялікае ўражаньне.

— У той час, як у краінах капіталу, у Чэха-Славакіі, занядад, крызіс з кожным днём паглыбляецца і абвастраецца—гаварыў Фром—краіна Саветаў расьце, расьцьвітае новымі фабрыкамі і заводамі, новымі волатамі індустрыі.

— Капіталізм коціцца ўніз да сваёй нямінучай гібелі, вы шпарка прасоўваецеся наперад. Вось прыкладам, завод, на якім я ўчора быў... І вашы перамогі ў выкананьні прамфінпляну, ня толькі вашы—зьвярнуўся Фром да рабочых заводу імя Варашылава—гэта і нашы перамогі, гэтым самым вы паскараеце нашу перамогу, паскараеце гібель капіталізму...

— Капіталізм шалёна рыхтуецца да вайны супроць Савецкага саюзу. У вайне ён бачыць выхад з гэтага заняпаду, з гэтага крызісу. І толькі адна прамысловасьць ня ведае заняпаду, яна наадварот расьце. Чэха-Славакія арсэналы сусьветнай буржуазіі—буйнейшыя ваенныя заводы Эўропы, заводы Шкода ды іншыя, штодня выпускаюць сотні ваенных самалётаў, сотні тон атрутных газаў, тысячы бомб, знарадаў... Заўтра 1 жніўня—дзень барацьбы з новай сусьветнай бойкай. І хай ведаюць нашыя гаспадары, што калі толькі загрыміць гром новай сусьветнай бойкі, бойкі з Савецкім саюзам, мы супроць вас ня пойдзем, мы гэтымі газамі атруцім капіталізм, гэтымі бомбамі і знарадамі мы павырываем яго карэньні...

— Мы ператворым—закончыў Фром—арсэнал сусьветнага капіталізму—у арсэнал сусьветнай рэволюцыі... Ведайце!

Назаўтра дэлегаты паехалі...

За добрую прыкладную работу на заводзе, Андрэя прэміявалі вытворчай камандыроўкай у Маскву.

Ён зьвяртаўся—яны сустрэліся...

З часу іх першай сустрэчы прайшло тры месяцы. Павячэраўшы, Фром распачаў:

— Бачыў я ўвесь СССР, з усім яго будаўніцтвам. Хлусілі мае кіраўнікі па партыі. Казалі, што дрэнна жыве ваш рабочы. Пужалі:—„Ня едзь, бо выключым“. А я не пабаяўся і паехаў...

Андрэй прыслухоўваўся. Фром быў рашуч і рэзаў Андрэя прастатою сваёй мовы.

— Такой галечы, як у Чэха-Славакіі, дзе 65 проц. усяго насельніцтва хворыя на сухоты, не знайсьці нідзе.

Андрэй згаджаўся. Фром таварыў далей:

— Я прыеду дамоў, хоць бацькаўшчынай сваёй я ўжо лічу Савецкі саюз, і раскажу маім таварышом усю праўду аб вашай краіне, аб бацькаўшчыне ўсіх працоўных.

Андрэй слухаў і здавалася яму, што Фром будзе бясконца гаварыць. Але ён сказаў яшчэ некалькі слоў і сьціх, а Андрэй пацьвердзіў:

— Трэба!

— Усе раскажу!—паўтарыў Фром.

Некалькі часу яны пасядзелі моўчкі. Зноў падышоў афіцыянт, забраў брудныя талеркі і плату. Пад талеркай Фрома ляжаў аскубак паперы з адрасам. Фром разьвярнуў трубачку ў якую ён зьвярнуў аскубак, паглядзеў на яе. Потым з унутранай кішэні свайго пінжака дастаў два зялёных конвэрты. Адзін з іх быў пухлы, як падушка, нібы пусты. З другога ён дастаў паперку, на якой раўнюсенькімі радкамі разьмясьціліся прыгожыя літары, з першага абрыўкі якогасьці сяброўскага білёту.

— З гэтым скончана!—паказаў ён на абрыўкі.

— З вамі саюз!—паказаў ён на паперку.

— Гэта я прывязу сваім таварышом—і пакажу на справе, што з гэтым скончана,—зноў паказаў ён на абрыўкі.

Ён старанна пачаў складаць абрыўкі сяброўскага білету соцыял-дэмократычнай партыі назад у конвэрт.

— Я падаю заяву аб уступленьні ў комуністычную партыю. Гэтым самым даю абяцаньне ў любую мінуту быць гатовым да абароны сваёй бацькаўшчыны—Краіны Саветаў.

Андрэй глядзеў на гэтую чыстую паперу, сьпісаную раўнюсенькімі радкамі літар.

— Цяпер гэтыя сукіны сыны, мяне не абдурэць. Хопіць. Я не дапушчу, каб і другіх ашуквалі.

Андрэй слухаў і маўчаў. Фром з абурэньнем гаварыў далей — Андрэй ведаў прычыну гэтага абурэньня. Андрэю стала зразумела, што Фром перароджаны будоўляй, якая адбываецца ў нас у краіне, якая ня толькі пераплаўляе нас непасрэдных будаўнікоў, але і тых братоў па клясе, якія глядзяць на яе оптымістычнымі вачамі пролетараў.

Андрэй устаў і працягнуў Фрому руку. Разьвіталіся. Андрэй узяў люльку і адрас і паклаў назад у кішэню. Пайшлі ў розныя бакі. Андрэя зноў калыхала між сьценкамі купэ і вагонаў. Ад нядаўнай сустрэчы сэрца адчувала нейкую нястрымную радасьць.

ЦІШКА ГАРТНЫ

# „НЕ забудзьце пра т. Слёзберга“

— А-а-а!

Санкоўскі працягнуў руку і расплыўся ў ухмылцы.

Цікавая гэта яго ўхмылка, што рэдка сходзіць з твару, у якім многа нявыразных больш суровых, чым добрых рысак. Ад гэтага і ўхмылка халаднаватая, з добраю дозаю колкае іроніі. На гэты раз Санкоўскі ўхмыляўся па сьвятошнаму—ласкава і гасьцінна.

Ён закурыў сам і запрапанаваў цыгарку.

З тустым едкім дымам вусны выпускалі пераканаўчыя, адшліфаваныя словы ў альтовых з ціхім трупценьнем нотах...

— Чытаў я вашы нарысы пра наш „Комунар“,—казаў ён, паўтараючы кожнае слова:—калі пісаць будзеце далей—не забудзьце Хаіма Слёзберга. Вы яго ведаеце?

— Чаму-ж ня ведаць! Быў старшынёю заўкому, а зараз намдырэктара па працы... Ведаю, ведаю!.. Але скажэце, таварыш Санкоўскі, Слёзберг быў малатабойцам? Мэрам бы я чуў гэта ад некаторых рабочых.

Санкоўскі засьмяяўся.

— Хто мог сказаць? Мо' той, што ў вочы ня бачыў Слёзберга? Слёзберг—каваль і каваль добры. Гэта стары чырвонагвардзец. Іх ужо мала на „Комунары“. Больш пашла моладзь... Апошнія два гады на многа зьмянілі рабочы склад „Комунара. Старых усё менш і менш. Вось і я—ужо невядома, ці вярнуся назад на „Комунар“. Кончу курсы і хто ведае, куды пашлюць... А раней...

Ён зацягнуўся таннаю цыгаркаю.

— Памятаеце штурм 1930 году? Гэта быў сапраўдны штурм... Завод знаходзіўся на баявым палажэньні... Мобілізаваны. А якія гэмпы! Ёсьць што ўспомніць і цікава ўспомніць. Я тады быў сакратаром ячэйкі мэханічнага цэху і, памятаеце, мой цэх заваяваў пяцітысячную прэмію... Таварыш Шулькін не верыў, што мэханічны цэх дасьць ачко ўсім іншым і ўсё выгаўся... Але дзе дзенешся перад фактам?... Ці няпраўда?.. Так, Слёзберга не абмінайце,—заключыў Санкоўскі і схаваўся за дзьвярыма.

Хаіма Слёзберга нельга абмінуць: у жыцьці „Комунара“ гэта адна з буйнейшых асоб, цесна зьвязаных з заводам... зьвязаных не звычайнаю, няпрыметнаю працаю, а барацьбою за яго разьвіцьцё, за ўздым вытворчасьці, за організацыю вытворчых перамог. Многа адказных таварышоў прайшло праз завод за апошнія некалькі гадоў. Кожны з іх у свой час даў „Комунару“, што мог і на новай працы прызабыў машынабудаўнічы завод. Яшчэ калі ён у Менску, то яму напомніць пра „Комунар“ галасістая разьлўяная сырэна, калі-ж паза Менскам—бывай здароў. Рэдкі выпадак верне на момант яго думкі ў мінулае і следам загарне іх бягучым наступным. Ці-ж не аднакава каштоўны яны ў сваёй творчай чыннасьці на ўсялякім дзейным попрышчы для справы пабудовы соцыялізму?

Хаім Слёзберг добра ведае гэта—ён даволі падкаваны таварыш: жыцьцём і ведамі. За 12 год настукалі яму малаты многа рознастайных мотываў і горан парасказваў багата цыкляў неадменных ісьцін. Каб другому, ой, як зарупіла бы зьмены, Сталь і жалеза, бразг і грукат, вярценьне, вярценьне і звон, хоць уздымныя і бадзёрыя, але аднакія і падобныя—Слёзбергу мілы і прыемны. Ён тры гады з перапынкам аставаўся старшынёю заўкома і, запытайце, колькі часу ў дзень яго маглі бачыць па-за сьценкамі майстэрні? Сотні спраў, сотні людзей—але Слёзбергу не патрабавалася на гэта многа часу. І ў вырашэньні, часамі вельмі блытаных пытаньняў, ён быў кароткім, ясным і... цьвёрдым. Цьвёрдым, ды ня злым!

— Го-а. Сьлёзберг! Ён нікога не пакрыўдзіў!—вам скажа амаль ня кожны комунаравец, калі ён трымаецца об'ектыўнага пункту гледжаньня. Тады ён яшчэ падмацуе сваю думку наступным сьверджаньнем:

— За Слёзберга ня было лепшага старшыні заўкому.

І шэраг сакратароў партколектыву, меўшых шчыльнае дачыненьне да Сьлёзберга, згодзіцца з гэтым.

Згодзіцца ня толькі таму, што аб Слёзбергу дадатнае, нават спрыяльвае думкі большасьць заводу „Комунар“, а таму, што яны самі пераканаліся ў тым.

Ні Затурэнскі, ні Шулькін, ні Гоберман, ні адзін ня меў за сваю працу на „Комунары“ ніякіх конфліктаў з гэтым памяркоўным і таварыскім партыйцам.

Сьлёзберг апіраўся на ўстойлівую кропку і ня сьлізгаўся.

Ён быў руплівым і дзейным памочнікам на адказьнейшых пастах і ў адказьнейшыя моманты заводзкага жыцьця.

Яго не маглі бачыць толькі на адным штурму—гэта на славутым штурму асоб га кварталу другога году пяцігодкі. Чаму запытаеце? Хаіма тым часам ня было на заводзе: ён вучыўся у Маскве ў вышэйшай школе профруху.

З якою ахвотаю ён ехаў на вучобу і як яму хацелася скончыць гэту школу! Але не знайшлося часу: бяз яго цяжка было абыйсьціся на заводзе. Хаіма адклікалі і ён вярнуўся ў Менск.

— Ты мусіш пайсьці! на работу ка мне!—угаварваў яго т. Шулькін, які ў гэты час будаваў гарадзкі савет профсаюзаў:

— Да рэчы ты, Хаім, трапіў у Менск, якраз водлуг пагаворкі: на лаўца і зьвер бяжыць.

Слёзберг ня даў сьцьвердзіцца гэтай ісьціме. Шулькін ня выявіў з сябе спрытнага лаўца.

— Я варочаўся ня ў Менск, а на „Комунар“,—адказаў Хаім.—Пазбаў, дарагі таварыш, ад сядзячае прапы. Ты-ж ведаеш мяне, я люблю рух, жывую, кіплівую чыннасьць.

І сеў ізноў за той стол, які каля году, у час яго адсутнасьці, займаўся Лаўрусевічам.

Дзесяткі рабочых, кавалёў, сьлясароў, такароў, ліцейнікаў дзень у дзень запаўнялі цесную каморку: сотні рознастайных епраў варушылі Хаімавымі думкамі і ўсё знаходзілі сабе належнае вырашэньне. Спакойліва і талкова тлумачыў Слёзберг кожнае пытаньне і таварышы рабочыя задаволена вярталіся ў цэхі.

Гадавога перапынку як і ня было. Папярэдніх два гады шчыльна засуцэліліся аднолёным напружаньнем заўкомаўскай працы з трэці годам. Знаёмыя людзі, вывучаны пытаньні, чужыя скаргі і просьбы—той самы „Комунар“, з якім зжыўся Слёзберг гадамі. Але гэта знадворку. У працэсах заводзкае працы многа-многа новага! Сотні перытвораных рабочых прапаноў паднялі вытворчасьць, палепшылі якасьць продукцыі, абагацілі цэхі новымі об'ектамі вырабу. Павялічылася колькасьць ударнікаў, соцыялістычнае спаборніцтва значна пашырала сваю дзейнасьць у сьценах заводу... Жыцьцё не стаіць, яно ў вечным станаўленьні. Пад узьдзеяньнем рабочае творчасьці яно няспынна ператвараецца. Гэта прыметна на кожным кроку.

Хаім Слёзберг многа патраціў стараньняў і энэргіі на пабудову новых карпусоў „Комунара“. Ён, нядаўна радавы каваль, бачыў і ведаў, як цяжка „уліваць новае віно ў старыя мяхі“. Рост заводу рассоваў цесныя памяшканьні і вымагаў новых. Недзе разгарнуцца ні сталовай, ні заўкому, ні канторы. Няма месца для партсходу, а збоку шырокі простакутнік Кашарскае плошчы. Ці чакала яна трымаць на сабе новыя карпусы машынабудаўнічага заводу? Чырыканьне верабёў на рассаджаных клянінках, каштанах, вандраваньне сонных курэй і сьвіней павінна замяніцца разгайданым тэмпам сталёвай мэлёдыі. Было шмат перашкод утварыць гэту перамену, але настойлівасьць т.т. Левіна і Слёзберга ўзяла верх. На Кашарскім пляцы вырасьлі доўгія карпусы „Комунара“.

Хаім з аблягчэньнем паехаў у Маскву на вучобу, пакідаючы плён сваіх стараньняў у выглядзе разгорнутага будаўніцтва. Вярнуўшыся з Масквы ён толькі два-тры месяцы прасядзеў у цесным старым памяшканьні, потым у кастрычнікаўскія сьвяты 1931 г. разам з усімі заводзкімі організацыямі і сталоўкай пераехаў у новы будынак.

Люба паглядзець на сьветлыя цёплыя пакоі, на шырокую прасторную салю заводзкае сталовае. Гэта ўзорнае памяшканьне яно гадно для сходаў і ўрачыстых паседжаньняў. Крыху ніякавата, што другія карпусы слабей пасоўваюцца да

сканчэньня. Бач гэтак цесна бляшанаму цэху ў старых, падобных на хібаркі памяшканьнях. Напрасторна ў гакарнай—Слёзберг нераканальна дavoдзіў гэта там, дзе трэба, але мусіў згадзіцца, што матэрыял больш патрэбен для першачарговых будоўляў „Комунар“ можа крыху пачакаць.

Будзе час прыкласьці Хаіму свае стараньні, калі не ў якасьці старшыні заўкому, то ў ролі намдырэктара.

На гэту пасаду быў высунуты Слёзберг у сакавіку месяцы 1932 г.

Можна павіншаваць з новымі функцыямі?

— Ня думайце, што я шкадую заўкома: тры гады—досыць. Ці-ж ня праўда? Заводу карысьней мець мяне намесьнікам дырэктара па працы.

Толькі з гэтых меркаваньняў Слёзберг вылез з-за стала старшыні заўкому—з меркаваньняў мэтазгоднасьці для заводу для пастаноўкі працы, для больш плённага змаганьня „Комунара“ за плянавыя заданьні.

На пасаду намдырэктара Хаім ішоў з тымі-ж упэўненасьцю і рашучасьцю бальшавіка, як і на профсаюзную працу. Бач ён-жа каваль, і завод любіць мець яго, як бліжэй да сьцен майстэрань, да гарноў, што 12 год яго апалялі сваім агнём, да абстуканых кавадлаў.

Праўда, Хаім Слёзберг і ў бытнасьць старшынёю заўкому тры чвэрткі часу аддаваў майстэрням, заводу. Тысяча чалавек рабочых і рэдка катораму ўдаецца не наведаць старшыню заўкома. Бяз яго ня вырашыць ні буйных, ні дробных конфліктаў: спазьненьне, брак, расцэнкі, катэгорыі, няяўка на работу, ці-ж пералічыш усё?

І па дарозе ў майстэрню і ў цэху тое і чуеш, што:

— Таварыш Слёзберг, на адну хвілінку? Хаім спыняецца і ўважліва слухае.

— Добра, добра! Будзь спакоен, уладзім адкажа і не пасьпее стуліць губ, як трэба гаварыць з другім.

Цяжка ўсім дагадзіць, але Хаім Слёзберг не заслужыў адмоўных водзываў аб сябе. Не адзін комунаравец выходзіў ад яго нездаволеным, часамі злаваў, падніма́ў голас, ды хутка пасьля гэтага астываў: як ня прыкра, а ён прызнаваў сябе вінаваты, а Сьлёзберга правым.

У Сьлёзберга ня менш спраў і ў якасьці намдырэктара: ён і цяпер у асяродку рабочае масы. Функцыі іншыя, а характар той самы, характар чульлівага, памяркоўнага таварыша, добрага, дбайнага гаспадара і цьвёрдага, стойкага партыйца.

Гэтыя яго асаблівасьці высока цэніць увесь рабочы колектыў заводу, не пачуеш на Слёзберга ні нараканьняў, ні закідаў.

Наадварот—усе аднае думкі, з т. Санкоўскім: Хаіма Сьлёзберга нямožна не паказаць, як работніка-героя, ях цалкам адданага заводу таварыша, як рупнага гаспадара і стойкага змагальніка на фронце соцыялістычнага будаўніцтва.

— Слёзберга варта паказаць, больш як каго,— скромна прызнаецца рэдактар шматтыражкі.

І дырэктар політэхнікума, жывы і гарачы пісьман дадае:

— Слёзберг сапраўдны герой-ударнік і штурмавік.

Гэтыя сьцверджаньні былі пацмацаваны і той прэміяй-паездкай на курорт, якую далі Хаіму за яго ўдарную працу па профлініі.

Комунараўская грамадзкасьць ацаніла гэтага каваля—старшыню заўкома—намдырэктара па заслугах.

У Хаіма Слёзберга іх многа перад заводамі. Яны яшчэ абагацяцца новымі і новымі, бо ён рашыў доўга не расставацца з „Комунарам“.

Так, Хаім Слёзберг патрэбен „Комунару“, „Комунар“ моцна даражыць гэткімі, як ён.

8-V—32.

Рабочыя сьлясарна-трактарнай майстэрні Белмашпрамтрэсту т. Пляшчынскі, Нічыпаровіч, Арцімовіч—прэміраваныя ударнікі— сваячасова выканалі плян рамонту трактароў да вясновай сяўбы.



Сьлесары т.т. Янушкевіч і Мядзьведзяў устанаўліваюць матор у апошні плянавы трактар.



Новы будынак трактарных майстэрань Белмашпрамтрэсту



# Дзесяткі тысяч пралетараў і працоўных Менску на палітычнай масоўцы 18-V прадэманстравалі








сваю згуртаванасьць вакол бальшавіцкай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з т. СТАЛІНЫМ, аддачасьць справе барацьбы за поўную перамогу сацыялізму, гатоўнасьць да абароны краіны пралетарскай дыктатуры.

# Пачынаецца дзень у сем...

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ

I.

Сонца звоніць
аб выбіты брук,
сонца сыплецца
ў шкло вітрын...
у такую цяплынь
і пару
прылiпаюць да стрэх
вятры.

Як ангiнай распалены рот
дыша дзень
сухавеем i пылам.
I здаецца, напнуты дрот
больш трымацца
ня мае сiлы.

I пад блокаў
і тросаў скрып
на паверхі кладзецца цэгла...
Загубiлiся недзе вятры
мiж высокiх бляшаных стрэхаў.

Дзень пачаўся
ударных работ,
дзень абсыпаны сонцам
i шчырасьцю песень.
Дзень гудзе,
як нацягнуты цяжарам дрот,
Дзень гудзе
на ударным паверсе.
Над паверхамi
поўдзень.
Сінь
пранізаная сонцам навылет.
На паверхах згiнаюцца
тысячы сьпiн
загарэлых i поўных сiлы.

Пачынаецца дзень
у сем
Фізкультурным
паходным маршам.
I спружыняць цяглiцы ўсе,
i ўздрыгваюць думы нашы.

Пачынаецца дзень.
у сем,
пачынаецца песьняю нашай...
Мы выходзiм на зьмену
зьмен
з фiзкультурным
паходным маршам.

II.

Мы выходзім у майках
на вулічны брук,
брук абсыпаны радугай
майскага сонца.
I ў кожнай цяглiцы
закасаных рук
столькі спрыту, энэргii, моцы.
I калёны, калёны iдуць
ў паласатых расшпiленых майках—
у рыпе цяглiц i ўдарах бутц
наша сiла, адзiнства i спайка.

Усьмiхаюцца вулiцы нашай хадзе,
раньне целы хварбуе сонечным пылам
I ў кожным уздыме гарачых грудзей
Наша песьня i нашая сiла.

Паласатыя майкi iдуць,
i па бруку ляскочуць каляныя бутцы.
Я ў маршы паходным,
у рыпе бутц
чую пульс бытавой рэволюцыi...
А калi
на краiну iпрыт папаўзе,
I крывёю акропяцца брук i панэлi—
мы здолеем сёньня-ж
на майкi адзець
прывычны нашы шынэлi...

Мы моцнымi вышлi на сустрач гадоў,
у шчыльных i стройных калёнах...
З нас кожны упэўнены,
кожны гатоў
Да працы i абароны.

7-II-V—32 г. Менск.

---

# Глуханямыя загаварылі...

*Нарыс*

Л. ЮРКЕВІЧА

У 1925 годзе, у выніку зьліцьця Віцебскай і Менскай невялікіх школ глуханямых, на будынку, авеяным затхлым, жудасным подыхам стагодзьдзяў, але „амалоджаным“ і адраматнаваным, вырасла шыльда:

— Беларускі Інстытут Глуханямых.

Пры арганізацыі інстытут быў разьлічан на 120 чал. Цяпер ён пашыраны да 150 чал.

Мэтавая ўстаноўка інстытуту—даць глуханямому дзіцяці агульныя веды ў аб'ёме школы 1-га концэнтру, плюс веды па пэўнай профэсіі. Таму пры інстытуце працуюць шавецкая, кравецкая і сталярная майстэрні. Сёлета, да рэчы, вытворчая програма павялічана ў два разы, параўнальна з леташняй.

Навучаньне глуханямога чалавека, так страшэнна пакрыўджанага прыродай, або хваробаю, патрабуе ад гэтак званых сурдапэдагогаў выключнай уважлівасьці і настойлівасьці. Сапраўды: у Інстытут паступаюць дзеці, якія нічога ня чуюць і не гавораць. За 8 год прабываньня ў інстытуце (калі ня лічыць дзіцячага саду) глуханямы навучаецца гаварыць, чытаць, мысьліць. Ён робіцца сьвядомым членам грамадзтва. Праўда, мова глуханямога застаецца манатоннай,—лёгічнага націску ў сказе, звычайна, дабіцца ад яго немажліва; з прычыны таго, што глуханямы ня чуе сваёй гаворкі—церпіць дыкцыя і вымаўленьне атрымліваецца ненатуральнае. Але больш ідэальнай чыстаты мовы глуханямога ня здолелі дамагчыся і ў лепшых аналёгічных інстытутах за межамі. Змаганьне за чыстату мовы—зараз галоўнейшая проблема савецкае сурдапэдагогікі.

Усе паступіўшыя ў інстытут забясьпечваюцца інтэрнатам, адзеньнем і харчаваньнем.

За час існаваньня інстытуту ў Мсьціславе ён выпусьціў звыш 50 чал. Пры гэтым, ня было выпадку, каб глуханямыя, скончыўшы курс навучаньня, засталіся-б „бяспрытульнымі“; паводле

*(Працяг на 10 стар.).*



За працай у швэйнай майстэрні



За працай у шавецкай майстэрні



Ударная комуністычная брыгада каменшчыкаў

# КУЗЬНЕЦК

## БУДУЕЦЦА ЎДАРЫМ

Побач са сканчэньнем і пускам новых агрэгаў на п
раооты па будаўніцтву другой чаргі мэталюргіага ком
У доменным цэху закончана забіўка паль п фунда
доменнай печы. Забіта 963 жалеза-бэтонных і даўжы
кожная. У котловане домны № 4 земляныя роты вы
На коксахімкомбінаце заканчваюцца земляныя работ
батарэі коксавых печаў. Роўналежна з гэтым і забіўк
Побач з цэнтральнай электрастанцыяй бэтонуюцца
станцыі на 115.000 вольт. Ідуць работы па лініі перадач
дыбаш і ўвесь жалезарудны раён. Пачалася бэтніроўка
ходзіць над заводзкай пляцоўкай, адлегласьцю 35 пагон



Першая коксавая батарэя хэмкомбінату



Монтаж блюмінга ў пракатным цэху. На сва
зьяўляецца буйнейшым у сьвеце



Агульны выгляд будаўніцтва

## ...К ГІГАНТ
## ...АРНЫМІ ТЭМПАМІ

...ых агрэг... ў на пляцоўцы Кузьнецкбуду ідуць ...эталюргі... га комбінату.

... паль па... фундамант групы каўпэраў трэцяй ...онных п... даўжынёй ад $4\frac{1}{2}$ да $5\frac{1}{2}$ мэтраў ...ляныя р...оты выкананы на 65 проц.

...а землян... работы па котловану чацьвертай ...гэтым ід... забіўка паль.

...ай бэтон...юцца колёны будынку павышальнай ...па лініі ...ерадачы току на Пракоп'ева, Ман-...лася бэт...іроўка падземнага тунэлю, які пра-...гласьцю ...5 пагонных мэтраў.



...цэху. ...а сваёй магутнасьці блюмінг



Доменны цэх з дзейнічаючай домнай № 1





**3-я група інстытуту глуханямых**

разьвёрсткі Наркамасьветы, некаторыя з іх накіраваны ў Ленінградзкі тэхнікум „ВОГ“ (Усесаюзнага аб'яднаньня глуханямых), некаторыя працуюць на харкаўскім машынатрактарным заводзе і г. д.

Вельмі цікавы мэтоды, якімі з глуханямога ствараюць актыўнага ўдзельніка сацыялістычнага будаўніцтва. На працягу месяца-двох з дзіцянём праводзіцца падрыхтоўчая работа — папярэднія практыкаваньні да мовы: пастаноўка дыханьня, пераймaньня, разьвіцьцё галасавых зьвязак. Далей ідзе пастаноўка мовы. Сурда-пэдагогі, з тым, каб выклікаць у глуханямога жаданьне гаварыць (а гэта—важнейшая ўмова посьпеху) наўмысьля ўтрыруюць склады, націскі. Значную ролю ў мэтодыцы гэтай работы адыгрывае выпрацоўка моўнага аўтоматызму.

З цягам часу словы ўскладняюцца. Разьвіваецца разуменьне. Глуханямыя пачынаюць чытаць з твару Шляхам дыялёгаў, пытаньняў, апісаньня малюнкаў ідзе разьвіцьцё лёгічнае мовы.

Зараз Беларускі Інстытут Глуханямых уяўляе сабой вялікую выхаваўчую ўстанову—комбінат, з падсобнымі прадпрыемствамі, гаспадаркай, уласным бюджэтам.

Пры інстытуце ёсьць комсамольская ячэйка глуханямых, у ліу 11 чал., ёсьць піонэрская організацыя—з 52 чал. Комсамольцы і піонэры— учарайшыя глуханямыя, „адшчапенцы“ — шэфствуюць над бліжэйшым колгасам, кіруюць грамадзкай працай вучнёўскага колектыву, праводзяць актыўную работу сярод працоўных у самым горадзе па лініі АЗЭТ'у, АСО-Авіяхіму.

Да Кастрычніка на Беларусі ня было такое ўстановы. Глуханямыя былі поўнасьцю прадастаўлены самі сабе,—яны расьлі і гадаваліся, на гора родным і сваяком, як абуза, як цяжар, як праклён лёсу... І толькі савецкая ўлада падыйшла да гэтага пытаньня, як да пытаньня социяльнай значнасьці—і заснавала ў Мсьціславе дзяржаўную навучальную ўстанову.

У нізкіх, зводчатых пакоях, дзе назаўседы адгучэлі крокі розных іезуітаў ды бурсакоў, глуханямыя вучацца будаваць соцыялізм.

І мімаволі ўсплывае на памяць:

— З гэтага-ж будынку ішла іхняя дэлегацыя вітаць раённы зьезд саветаў; гэта-ж у маскоўскім тэатры глуханямых, сіламі глуханямых (артыстых) ставіцца „Броняцягнік“; гэта-ж імі і для іх, „пасынкаў прыроды“, выдаецца многатыражная прэса, — друкуюцца брошуры, газэты (Жизнь глухонемых“ і інш.).

Глуханямыя загаварылі.



**Сталярныя вырабы інстытуту глуханямых**

---

# РАДКІ НЯНАВІСЬЦІ

ЮРКА ЛЯВОННЫ

„Вярхоўны суд штата Алабама зацьвердзіў сьмяротны прыгавор, вынесены судом у Скотсборо і ўхваліў прызначыць кару 8 нэгрыцянскіх юнакоў на 17-ае чэрвеня г. г.

(З газэт).

...Яшчэ ўчора ўсяго містэр Фулер
„Перамогу“ вітаў на банкеце,
Яшчэ помсты вятры не паснулі
Над магілаю Сако і Ванцэці,

А ўжо радыё раньняй парой
Жудасьць новую зтуль прынесла;
Па-над стрэхамі Скотсборо—
Ўстала здань электрычнага крэсла...

Кручкатворцы зашмат не маралі—
І прысудам процэс завінчан;
У імя буржуазнай „маралі“—
Той жа суд азьвярэлага Лінча.
— Гонар белых мы надта цэнім,
Да таго-ж за намі—закон!
... І гавораць ажыўшымі ценьмі
Восем змучаных юнакоў:

— Вы нас лічыце чорным таварам,
На крыві узьвёўшы гмахі свае,
Са слупоў прыдарожных у твар вам
Колькі шыбельнікаў плюе?..

Ў лютых бойках стыкаюцца клясы
І ў прадвесьні нябачаных дзён
Да адрозьненьняў мовы і расы
Далучыўся далярны звон;

І на вас, губарнатар Фулер,
Як на гэткіх-жа калісьці тут,
Прыдуць людзі з абуджаных вуліц
Пацягнуць на астатні суд!

Хай урад атлусьцелых жывёлаў
Захліпаецца ў жаркай крыві,
Мы сьпяем яшчэ карманьёлу
Каля вогнішча вашых вілл!

Вас на хуткі і страшны скоп
Неўзабаве прыдзецца-ж нам весьці!

. . . . . . . . . . . . . . .

І таму—як протэст, як праклён
Я ўзьнімаю радок ненавісьці,—

Не адзін з нас агнём палымнеў:
Ад рубільніка рукі адвесьці-б!
І таму выбухае мой гнеў,
І ў колёны ўрастаюць протэсты...

24-III—32

М. МОІН

# V ГОД ПРАЦЫ БДЯТ

Яўрэйскі дзяржаўны тэатр Беларусі сьвяткуе 5-гадовы юбілей свайго існаваньня.

Пяць год работы і творчага росту, вялікія мастацкія дасягненьні, пераход за гэтыя 5 год на вышэйшую ступень тэатральна-мастацкай культуры—лепшы паказчык правільнага вырашэньня партыяй ленінскага нацыянальнага пытаньня. Толькі дзякуючы правільнаму кіраўніцтву партыі мы маем такі росквіт нацыянальных культур, нацыянальных па форме і пралетарскіх па зьмесьце.

Яўрэйскі дзяржаўны тэатр БССР прарабіў свой ідэолёгічна-мастацкі шлях некалькімі этапамі. Першы этап, этап станаўленьня тэатру, этап студыйны адзначаецца цэўнымі памылкамі, галоўным чынам па лініі рэпэртуару. Захапленьне нацыянальнай экзотыкай, чыста формалістычнымі мудрагельствамі і г. д. падупаданьне ў пэўнай ступені, пад уплыў Маскоўскага ДЯТ („На пакаяным ланцугу“, „Сьвята ў Касрылаўцы“).

На першым этапе тэатр амаль ня меў на ўвазе патрабаваньняў аднаўленчага пэрыоду, тэатр, ці вярней тады яшчэ студыя, быў адарваны ад шырокай рабочай грамадзкасьці і таму, калі тэатр першы раз прыехаў на Беларусь, як тэатр з такім рэпэртуарам як „На пакаяным ланцугу“, „Касрылаўка“, „Шэйлок“ і інш. рабочы гледач сказаў тэатру: „Праўда мы прызнаем вялікія фармальныя дасягненьні тэатру, але вы не здавальняеце нашы патрабаваньні, вы адарваны ад нашай пролетарскай рэчаіснасьці“.

У адносінах формы тэатр у той пэрыод залішне захапляўся нацыянальнай экзотыкай, эстэтызмам, фармальнымі мудрагельствамі.

Толькі дзякуючы правільнаму партыйнаму кіраўніцтву ўдалося зрабіць пералом у рабоце тэатру. Гэтаму таксама дапамог соцыяльны склад тэатру.

У 1926 годзе тэатр распачынае работу над п‘есай Вев‘юра—„Ботвін“ і „Авечая крыніца“ Лопэ-дэ-Вэга. Гэтыя дзьве пастаноўкі давялі наколькі дзяржаўны яўрэйскі тэатр Беларусі цесна зьвязаны з шырокімі яўрэйскімі працоўнымі масамі, наколькі творчы мэтод тэатру выражае пролетарскую ідэолёгію.

Не адмаўляючыся ад сваіх формальных дасягненьняў, але змагаючыся з рэшткамі эстэтызму і формалізму, якія былі даволі моцнымі ў першых работах тэатру, тэатр імкнуўся паказаць героіку рэволюцыйнага мінулага і сучаснага ў капіталістычных краінах („Ботвін“, „Лекерт“) тэатр зусім па-новаму паставіў пытаньне інтэрпрэтацыі клясыкаў.

Ленінская думка аб крытычным засваеньні старой культурнай спадчыны была пакладзена ў аснову пры рабоце пад клясычнай п‘есай Лопэ-дэ-Вэга „Авечая крыніца“.

Актор у гэты пэрыод павінен быў зрабіць пералом у творчым мэтодзе. Калі ў папярэдніх пастаноўках яму даводзілася мець справу з гротэскавымі вобразамі („На пакутным ланцугу“, „Касрылаўка“), калі актор, у гэтым кірунку меў некаторы вопыт і крыніцу матэрыялаў для сваёй работы (клясычнага), дык у новых пастаноўках—„Ботвін“, „Гірш Лекерт“, дзе актор першы раз сустракаецца з вобразамі ня толькі рэволюцыйнага мінулага, але галоўным чынам рэальнай сапраўднасьці—тут ён павінен быў багата працаваць над сабою, для таго каб задачу — даць жывога рэволыцыянэра, клясавага ворага ў яго ўсяўзброенасьці, у іх шматграннасьці, гэтую задачу ператварыць у сапраўднасьць.

Патрэбна сказаць, што тэатру ўдалося стварыць цесны контакт з шырокімі рабочымі масамі, іменна таму, што рабочы гледач угледзеў на сцэне гэроя рэволюцыі ў яго штодзеннай барацьбе.

Дзярж. яўр. тэатр БССР дзякуючы правільнаму парткіраўніцтву першы з усіх яўр. тэатраў СССР стварыў яўрэйскую рэволюцыйную драматургію („Ботвін“, „Лекерт“), гэта ў свой час адзначыў 2-гі зьезд яўрэйскіх культработнікаў у Харкаве.

Дз. ЯТ БССР пачынае новую старонку ў гісторыі рэволюцыйнага яўрэйскага тэатру тым, што ён



1

2

3



Фото І. САЛАВЕЙЧЫКА.

першы пашоў па шляху сьцьвярджэньня, а ня толькі адмаўленьня.

Тэатр ня спыняецца на паказе толькі рэволюцыйнай героікі мінулага, тэатр уключае ў свой рэпэртуар п'есы, якія адбіваюць рэволюцыйны рух у капіталістычных краінах, і гэтым ён праводзіць вялікую работу ў сэнсе інтэрнацыянальнага выхаваньня рабочых мас.

Гэтым можна заключыць другі пэрыод, які вызначаецца вялізарным росквітам творчых сіл тэатра, цеснай сувязьзю з шырокімі рабочымі масамі, ростам актораў, ростам маладых рэжысэрскіх кадраў і г. д.

Вось, што піша ў сваім водзыве аб Дз. ЯТ БССР журы ўсесаюзнай олімпіяды мастацтва.

„Работа і дасягненьні Бел. Дзярж. яўр. тэатру зьяўляюцца бліскуючай ілюстрацыяй росту і ўмацаваньня нацыянальных культур ва ўмовах Савецкай Беларусі.
5 Наяўнасьць тэатра, падобнага Дз. ЯТ БССР зьяўляецца фактам вялікага культурнага і палітычнага значэньня ня толькі для Савецкага саюзу, але і для зарубежных краін". І далей „Побач з формальнымі дасягненьнямі, бясспрэчнай і асноўнай заслугай тэатру зьяўляецца яго рашучая ўстаноўка на соцыяльна-насычаны савецкі рэпэртуар". Але журы ў той-жа самы час адзначае і недахопы, якія тэатр павінен зьнішчаць". „Журы адзначае посьпехі тэатру ў справе барацьбы з самамэтным формалізмам і голым эстэтызмам, але адначасова лічыць неабходным паказаць тэатру, што ён далёка яшчэ не аслабаніўся канчаткова ад гэтых недахопаў. Імкненьне к „прыгожасьці" і тэатральнасьці інагды адсоўвае на другі плян соцыяльны сэнс спэктакля".

Далейшы этап тэатру сказваецца ў імкненьні стварыць рэпэртуар, які-б адбіваў соцыялістычнае будаўніцтва. Яўрэйская рэволюцыйная драматургія, якая ў другім пэрыодзе работы тэатра паказала бурны рост і магчымасьці, не змагла адразу пераключыцца на паказ соцыялістычнага будаўніцтва. Тэатр нават згубіў раней устаноўленую цесную сувязь з яўрэйскімі пролетарскімі пісьменьнікамі, і п'есы, якія-б адбівалі колёсальнае со-
6 цыялістычнае будаўніцтва нашай краіны, напісаны ня былі.

Перад тэатрам ставіцца задача — даць вобраз героя соцыялістычнага будаўніцтва—ударніка, паказаць патос соц. будаўніцтва. Творчы мэтод тэатра ў гэтым пэрыодзе не даваў гарантыі, што гэтая задача можа быць з посьпехам выканана. Тэатр у яго прадапошніх работах паказвае рэцыдывы формалізму, эстэтызму („Джым Купэркоп"), нацыянальная абмежаванасьць і экзотыка („Глухі"). Тут востра пастаўлена было пытаньне аб марксыцка-ленінскай вучобе, выхаваньні актора. Нельга сказаць, што гэта работа нават у сучасны момант пастаўлена на адпаведную вышыню. Бясплянавасьць, неорганізаванасьць у рабоце існуе яшчэ і на сёняшні дзень. І таму тэатр у сучасны момант пераживае цяжкасьці, калі ён хоча паказаць героя соцбудаўніцтва, часта атрымліваецца схэма, замест паказу ўдарніка, трафарэт замест жывога чалавека.

Тэатр пасьля пяці год работы павінен яшчэ больш напружыць сваe творчыя сілы для стварэньня рэпэртуару вартага вялікай эпохі будаўніцтва соцыялістычнага грамадзтва. Усе магчымасьці для гэтага ў тэатра
7 маюцца.

Тэатр за сваё пяцігадовае існаваньне стварыў вялікую групу рэжысэраў, якія паказалі вялікія магчымасьці: Літвінаў, Норд, Айзэнбэрг.

У гэтых адносінах Дз. яўр. тэатру БССР мае вялікія заслугі. Ні адзін з яўрэйскіх тэатраў у Савецкім саюзе ня выхаваў такое колькасьці рэжысэраў.

Неабходна таксама адзначыць, што дзякуючы ня зусім уважлівым адносінам Галоўмастацтва БССР к тэатру два рэжысэры пакінулі тэатр. У тэатры маецца значная група актораў, якія паказалі вялікія здольнасьці і магчымасьці. Мы павінны адзначыць, што выхаваньне актора нездавальняючае. Неабходна ўжыць меры, каб паставіць работу рэжысэра з акторам на вышэйшую ступень. Гэта можа быць дасягнута на аснове правільна пастаўленай Маркса-ленінскай вучобы, з пераўзброеньнем сьветапогляду актора.

Патрэбна прызнаць, што побач з вялікім імкненьнем асноўнай часткі колектыву змагацца за авалоданьне дыялектычным творчым мэтодам, у колектыве ня зжыта ящчэ і тэорыі „ўсемагутнага стыхійнага таленту“, „непасрэдных адчуваньняў“, рэшткі літфронтаўшчыны, праяўленьні паўзучага эмпірызму і г. д.

Пытаньне стварэньня і падрыхтоўкі новых кадраў перад тэатрам стаіць надзвычай востра. Нельга супакойвацца на тым, што пры тэатры існуе студыя. Выхаваньне студыйцаў пастаўлена далёка не здавальняюча, адсутнічаюць неабходныя памяшканьні, сродкі і выкладчыкі.

НКА БССР павінен адпусьціць больш сродкаў для гэтай справы, тэатр павінен больш аддаваць увагі студыі.

У рабоце тэатра ёсьць шмат недахопаў. Дасюль не разгорнута дыскусія па прынцыповых практычных пытаньнях творчай работы тэатра, недастаткова ўцягнута пролетарская грамадзкасьць у практычную работу тэатра. Падводзячы вынікі пяцігадовай работы, дасягненьняў і недахопаў яўр. дзярж. тэатру БССР мы можам з упэўненасьцю сказаць, што з дапамогаю шырокай пролетарскай грамадзкасьці тэатр стане сапраўды магутнаю зброяй у руках партыі і пролетарыяту ў барацьбе з клясавым ворагам, за конкрэтнае ажыцьцяўленьне задач соцыялістычнага будаўніцтва.



9

1. Авечая крыніца. Паст. Л. Літвінава. Маст. А. Тышлер.
2 На 62 вучастку. Паст. А. Айзэнберга. Маст. А. Тышлер.
3. Стрэл. Паст. М. Рафальскага і Б. Норда.
4. Гірш Лекерт. Паст. М. Рафальскага. Маст. Мандэльбэрг.
5. Гопля мы жывем. Паст. Б. Нэрда. Маст. А. Лабас.
6. Глухі. Паст. М. Рафальскага. Маст. А. Тышлер.
7. Джым Купэр Коп. Паст. Л. Літвінава. Маст. А. Тышлер.
8. Ботвін. Паст. М. Рафальскага. Маст. А. Тышлер.
9. Штурм. Паст. Б. Норда. Маст. Д. Крэйн.

Фото М. РЫВІНА.

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ ПЯЦІГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ Б. Д. Я. Т.



Т. Гурэвіч вітае тэатр ад ЦК КП(б)Б.



Перадача прывітаньня ад падшэфнай чырвонаармейскай часткі.



Т. Вольфсон Замнаркомасьветы адчыняе урачыстае паседжан.

Фото І. САЛАВЕЙЧЫКА.



У залі паседжаньня.



Прэзыдыум.

АНТОСЬ КАЛЮЖНЫ.

# НОВАЯ ВОРША

Ворша калісьці — павятовы цэнтр з поліцэйскімі, з усёй бюрократычнай машынай царскай улады, з манастырамі—мужчынскім і жаночым, з царквамі, касьцёламі, сінагогамі і турмой у самым цэнтры гораду...

Была ў Воршы і прамысловасьць—чатыры дзесяткі прадпрыемстваў, гаспадары якіх высмактвалі ўсе сокі з рабочых.

Абкружана была Ворша пустырамі, дзе расло пустазельле, лясамі, а крыху водаль—цэлым колам маёнткаў: Бабінічы, Вусьце, Барань, Забалоцьце, Высокае, Берасьценава, Юрцава, Пішчалава, ды манастырскімі землямі.

Паміж маёнткамі, нібы іх хто пасадзіў у ціскі, раскіданы былі вёскі і хутары, з хатамі, крытымі саломай. Батракі, беднякі і серадdespite, жыхары гэтых вёсак і хутароў век гнулі сьпіны працуючы на абшарніцкіх ды манастырскіх палёх. Працавалі ад цямна да цямна.

А прышоўшы дамоў, пасьля цяжкай працы, павячэраўшы пры цьмяным сьвятле лучынкі, зморaны, абясьсілены валіўся на лаўку крыху адпачыць, каб заўтра з цемненькім зноў стаць на работу.

Так было. Абшарнікі, папы, ксяндзы ды царскія чыноўнікі будавалі сваю політыку так, каб стварыць для батрака і селяніна нячуваныя ўмовы жыцьця, каб ён за работай сьвету ня бачыў.

Так было на Аршаншчыне ў часы гаспадараньня фабрыкантаў і абшарнікаў. Векавечная глухамань тут парушалася толькі гудком параходу — рэдкага госьця на Дняпры, ды жахамі яўрэйскіх пагромаў.

Так было...

Віхром змахнуў бурны Кастрычнік з абшараў зямельных магнатаў і фабрыкантаў. Ускалыхнуў Кастрычнік і Аршаншчыну. Рабочыя батракі і бядняцка-серадняцкае сялянства, заключыўшы працоўны саюз, пачалі організоўваць савецкую ўладу і партызанскія ды чырвонагвардзейскія атрады, каб абараніць гэту ўладу, свае новыя правы ад насядаўшых панскіх наймітаў—польскіх легіянэраў і іншай белагвардзейшчыны. Колькі тут на палёх Аршаншчыны было крывавых боек...

Пролетарская рэволюцыя перамагла. Былыя байцы, чырвоныя партызаны, чырвонагвардзейцы і чырвонаармейцы пад кіраўніцтвам ленінскай партыі пачалі будаваць новае жыцьцё. У былых маёнтках організаваліся саўгасы і колгасы, пачалася перабудова вёскі. Трудна давалася гэта перабудова, яна праходзіла ў абставінах жорсткай клясавай барацьбы. Кулаччо і іх прысьпешнікі ўсімі сіламі стараліся перашкодзіць перабудове вёскі на соцыялістычны лад. Яны ведалі, што з колгасамі прыдзе іх пагібель...

Чатыры гады таму назад, у 23 кілёмэтрах ад Воршы, у в. Арахі, на беразе возера, сярод вялізарнейшых Асінаўскіх балот пачалася пабудова волата—электрастанцыі—сэрца прамысловасьці—Першай Беларускай Дзяржаўнай раённай электрастанцыі імя Сталіна.

А калі ад электрасэрца ва ўсё бакі—на Віцебск, Воршу, Магілеў, Шклоў, Копысь, Дуброўну па слупох пабеглі правады для перадачы электраэнэргіі, аджылі Аршанскія пустыры, заварушыліся тут людзі і адно за адным пачалі будавацца прадпрыемствы.

Сьмяецца стары Дняпро, успамінаючы мінулае. Дзівіцца новым людзям і нячуванаму размаху жыцьця. Ціха, ціха нясе Дняпро свае воды. Глядзяцца ў іх цяпер не манастыры, ня цэрквы і касьцёлы, а волаты—прадпрыемствы.

У трынаццатую гадавіну Кастрычніка ад электрасэрца па правадох пацякла электрычная кроў і новыя волаты — прадпрыемствы пачалі работу.

З аднаго боку Воршы, дзе палоскі чыгуначных рэек уцякаюць у далёкую сінь, на пустыры вырас і працуе красуня Ільнакомбінат. Вялікая яго вытворчая магутнасьць. Многа ільну пераапрацоўваюць яго машыны—геклінгі. За цэлы год не змаглі-б раней сялянкі Аршанскага павету пераапрацаваць рукамі столькі ільну, колькі зараз адна машына-геклінг пераапрацоўвае на працягу васьмі дзён пры аднэй работніцы.

Па суседзтву з гэтым волатам вырас мясны комбінат са сваімі бэконным, консэрвным, каўбасным і іншымі заводамі. З другога боку вырас элеватар, сылікатны завод, цагляныя і іншыя заводы. У горадзе пабудаваны хлебазавод, электра-мэханічная майстэрня перарасла ў чыгуначна-ліцейны завод. Пашырыліся і іншыя прадпрыемствы гораду.

Замест ачагоў дурману — царквей, манастыроў, касьцёлаў і сінагог, вырасьлі новыя клюбы, адчынены новыя навучальныя ўстановы—мясны тэхнікум, рабфакі, падтэхнікум, школы семігодкі і г. д. Пабудаваны дзесяткі новых дамоў — кватэр для працоўнага насельніцтва гораду.

Не пазнаюць зараз Воршу старыя рабочыя.

— Як тут яе пазнаеш,—кажуць яны,—калі панастроілі гмахаў волатаў.

На адным толькі ільняным комбінаце зараз працуе 3500 чалавек рабочых—у 17 разоў больш чым на ўсіх прадпрыемствах ранейшай Воршы.

А калі ўзяць усе прадпрыемствы цяперашняй Аршанчыны, дык рабочых у сотні разоў больш.

— Цудоўных спраў нарабіла пяцігодка са сваёй электрыфікацыяй, ні дроў, ні іншага апалу фабрыкам і заводам не патрэбна. Уключыў ток—і машыны ды варштаты працуюць, Нам гэта і ня сьнілася. Лацьвей зараз моладзі нашай працаваць.

Пяцігодка і электрыфікацыя зьмянілі твар і вёскі, усхамянулі селяніна, уцягнулі яго ў соцыялістычнае будаўніцтва. Зразумелі беднякі і сераднякі, што толькі праз колгасы адзіны шлях хутчэйшай перабудовы жыцьця, каб пазбавіцца ад вечнай цемры і галечы. Зразумелі яны, што ў колгасах змогуць скарыстаць гэту самую магутную сілу—электрычнасьць, што будзе яна ім малаціць, араць, кароў даіць і многа чаго іншага рабіць. А лямпачка Ільліча загарыцца ў кожнай хаце колгасьніка, у кожнай кватэры рабочага саўгасу.

Шпаркімі тэмпамі пачала перабудоўвацца вёска. Адзін за адным расьлі колгасы. Пачалі будавацца новыя школы, клюбы, хаты-чытапьні.

Вырас актыў вёскі з батрацтва, беднаты і серадняцтва. Пад кіраўніцтвам партыйных ячэек ён будуе новую колгасную сельскагаспадарчую вытворчасьць.

Праўда, дзе-ні-дзе кулак яшчэ імкнецца стрэлам альбо нажом у сьпіну вясковаму актывісту-будаўніку колгаснай вёскі, затрымаць пасьпяховае наступленьне соцыялізму, але гэтыя стрэлы і ўдары — апошнія прадсьмяротныя сударгі рэштак капіталізму.

Як толькі фабрыкі і заводы атрымалі электраэнэргію, ад цэнтральных магістральных ліній пачалі будавацца новыя ліній-веткі і слупы з правадамі пабеглі да колгаса, ад саўгаса да саўгаса. Саўгас „Высокае“, калгас імя Леніна і іншыя атрымалі электраэнэргію яшчэ ў мінулым годзе. У колгасных хатах і кватэрах рабочых саўгасу замест лучыны і лямпачкі-капцілкі загарэлася лямпачка Ільліча.

Колгасы: 13 зьезд КП(б)Б, Чырвоная ніва, Вольная праца, 19 партзьезд, Чырвоныя ўсходы, Чырвоны партызан, Чырвоная Харкаўка, Кушэўка, Авангард, 1 Мая. Гарбацэвічы, Новы быт, Зара волі, Ларынаўка, Чырвоны Кастрычнік і інш., саўгасы: Бабінічы, Забалоцьце, Вусьце, коопгас Аршанскага ТПО, спаткалі міжнароднае пролетарскае сьвята—1 мая таксама з лямпачкай Ільліча. Устаноўлена 1631 сьветапункты.

Усьлед за імі атрымаюць электрычнасьць комуна Дзесяты Кастрычнік, саўгас Межава, колгасы Буйны шлях, імя ЦВК БССР і дзесяткі іншых колгасаў.

Ударнікі Аршанскага аддзяленьня Саюзсельэлектра, якія праводзяць усю работу па электрыфікацыі колгасаў і саўгасаў Аршанскага раёну, па электрыфікацыі сельскай гаспадаркі, да 1 мая г. г. выканалі 75 проц. гадовага пляну па электрыфікацыі. Каб хутчэй электрыфікаваць калгасную Аршаншчыну яны ўзялі на сябе абавязак — да 1 ліпеня на ўсе 100 проц. выканаць гадавы плян электрыфікацыі. Тэхнікі і рабочыя—Дорфман, Едлінскі, Лічкоўскі, Дзямідкоў, Іваноў, Ромкаў, Бандарэнка і цэлы рад іншых, а разам з імі ўсе астатнія рабочыя і тэхнічны пэрсонал аддзяленьня Саюзсельэлектра, перамагаючы ўсе цяжкасьці, якіх было нямала, па бальшавіцку дабіліся перамогі. Праўдзівы творчы ўздым усіх работнікаў аддзяленьня Саюзсельэлектра гаворыць аб тым, што ўзяты на сябе абавязак—даць 100 проц. гадавога пляну па электрыфікацыі—будзе выкананы.

Так ідзе наперад да поўнай перамогі соцыялізму электрыфікаваная Аршаншчына. Зьмяніўся твар гораду і вёскі. Чытаючы газэту альбо кніжку пры сьвятле лямпачкі Ільліча, старыкі рабочыя, колгасьнікі, з каханьнем паглядаючы на гэту заваёўку Кастрычніка, успамінаюць старыя часы, калі гнулі сьпіну на абшарнікаў ды капіталістаў, разам з маладым пакаленьнем рыхтуюцца да новых боек у другой пяцігодцы за поўную перамогу соцыялізму, за пабудову бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва.

# 1 МАЯ

## У капіталістычных краінах

Першамайская дэманстрацыя бэрлінскага пролетарыяту аказалася самай магутнай за апошнія гады. Пад сьцягам компартыі на пляцу Люстгартэн сабралася амаль у два разы больш удзельнікаў, чым на ранішняй дэманстрацыі социял-дэмократаў. Трайным „рот фронт“ дзесяткаў тысяч прымаецца прывітаньне выканкому Комінтэрну. У прывітаньні дэманстранты прысягаюць абараняць савецкі саюз. Паліцыя рабіла напады на колёны дэманстрантаў, разганяючы некаторыя з іх. Увечары ў Бэрліне адбылося 47 масавых рэволюцыйных сходаў.




Макет танка з лёзунгам „Абараняйце савецкі саюз“ на першамайскай дэманстрацыі ў Копенгагене (Данія).






Зьверху

Дэманстрацыя ў Празе пад канвоем паліцыі ў дзень першага мая (Чэха-Славакія)

Першамайская дэманстрацыя ў Бэрліне

СЯУБА У САЎГАСЕ „БЛОНЬ" ПУХАВІЦКАГА РАЁНУ



Электраруххавік радавой сявалкі, забясьпечваемы энэргіяй з саратаўскай ГЭС. Рэсп. Немцаў Паволжа.







Фото ГЕ-ГУРВІЧА

# ШАХМАТЫ

## № 9 (19)

*Пад рэдакцыяй Я. КАМЯНЕЦКАГА*

## ВЫНІКІ УСЕСАЮЗНАГА КОНКУРСУ СКЛАДАНЬНЯ ДВУХХАДОВЫХ ШАХМАТНЫХ ЗАДАЧ ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

На конкурс атрымана **81** задача ад **30** аўтароў. Прымалі ўдзел: **П. Абрамовіч**—(Менск)—№ 30; **Аўшараў**—(Кіеў)—№ 1; **Баеў**—(Растоў н/Д)—№ 2; **Батурын**—(Варонеж) №№ 3, 4; **Біленка**—(Палтава) — №№ 5—8; **Галуб'еў** — (Масква) — № № 15, 16; **Глоттон** — (Масква) № 9; **Гугэль**—(Масква) №№ 12, 13, 74—76; **Гуляеў**—(Масква) №№ 10, 11; **Дабортгінідзе** — (Абастуман—Грузія)—№17; **Забелін**—(В.-Усьцюг)—№№38—39; **Званцоў**—(Ленінград)—№№ 21, 22; **Жытамірскі**—(Гомель)—№№ 18—20; **Калугін**—(Ленінград) — №№ 23—29; **Камянецкі**—(Менск)—№№ 31, 32, 75, 76, 80 *); **Лашынскі** —(Растоў н/Д)—№№ 2, 33, 74; **Мухін**—(Ленінград)—№№ 34—36; **Ніжні**—(Масква)—№ 37; **Рацінььня**—(Эрывань—Арменія) №№ 14, 40, 41; **Ратнікаў**—(Ворша)—№№ 42—50, 79; **Росалаў**—(Армавір)—№№ 51, 52; **Студзенецкі**—(Чэбаксары—Чувашская АССР)—№№ 53—55; **Парываеў**—(Новасібірск)—№ 56; **бр. В. і С. Піменавы**—(Растоў н/Д)—№№ 57, 58; **Чыкін** — (Сукрэмль—Зах. вобл.)—№ [81; **Чэрняхоўскі**—(Растоў—УССР)—№№59—66; **Шварцбург**—(Адэса)—№№ 67, 68, 77; **Шыф**—(Масква)—№№ 69, 74; **Ф. Ясенскі**—(Валагда)—№№ 70, 71; **Т. Ясінскі** — (Кіеў)—№№ 72, 73, 78.

Усе задачы былі падзелены на 4 групы: 1) задачы няправільныя, 2) задачы слабыя і нездавальняючыя, 3) задачы здавальняючыя і 4) задачы добрыя.

У першую групу ўвайшлі наступныя задачы: **№ 4**—выключана, як атрымаўшая 2 ган. водз. на 8-м конк, ВОЛЗ і Э; **№ 8**—папярэднік—Е. Умноў, 1 пр. „64", 1928 г.; **№ 16**—папярэднік—К. Ларсэн, „Brisbanc Courier", 1926 г.; **№ 25**—паб. разьвязак—1. Се4; **№ 26** — паб. раз. 1, Сс3; **№ 28**—як атрымаўшая 2 ган. водз. на конкурсе VII V. III-III. З.; **№ 29**—папярэднік — В. Ясьнікаў, „64" № 7, 1929 г.; **№ 39**—паб. раз.—1. Фf2 +; № 44—паб. раз.—1. Кh3 +; **№ 45**—не разьвязваецца пасьля 1... Ф : f6 2. ? ×;

---

*) Задачы рэдактара аддзелу удзельнічалі па-за конкурсам.

